Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# СЯЛЯНСКАЯ ПРАЎДА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня. Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 8. Вільня, Пятніца, 17-га кастрычніка 1924 г. Год I.

## Збор ахвяраў на карысьць Беларускага прытулку у Вільні.

**У ПЯТНІЦУ, 28 КАСТРЫЧНІКА,** адбудзецца ў Вільні **ЗБОР АХВЯРАЎ** на карысьць прытулку для беларускіх сірот і дзяцей бедных бацькоў.

Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны, які апякуецца памянёным прытулкам, зьвяртаецца да беларускага грамадзянства і да ўсіх людзей добрай волі—з вялікай просьбай: **прыняць чыннае ўчасьце ў зборы, як сваей працай, так і ахвярамі.**

Усіх ахвочых прыняць удзел у зборы Камітэт просіць зьявіцца ў **чацьвер, 16 Кастрычніка, а 5 гадзіне** вечарам у памешканьне Беларускай Гімназіі (Вострабрамская вуліца, дом № 9) для нарыхтаваньня **падзелу працы** ў дзень збору.

*Прысутнасьць усіх сяброў Таварыства помачы пацярп. абавязкова.*

# „Маніфэст“ міністра асьветы.

## Ніякіх ілюзіяў!

Калі каму-небудзь яшчэ дагэтуль здавалася, што нізкапаклонствам і цалаваньнем „панскае ручкі“ беларусы могуць нечага дабіцца ад польскае ўлады,—дык цяпер, пасьля зробленых у Вільні міністрам асьветы заяваў, дзеля падобнае ілюзіі месца ўжо не астаецца.

Сабраўшы прадстаўнікоў польскае прэсы, п. міністар, на пытаньне аднаго з іх аб справе школаў для „меншасьцяў“, адказаў*):

„Справа школы для нацыянальных меншасьцяў, згодна з законам, які ўваходзе ў жыцьцё з днём 15 (а ня 1-га?—*Рэд.*) кастрычніка, знаходзіцца ў падгатаваўчым стане. Урад атрымлівае ад прадстаўнікоў меншасьцяў іх пажаданьні і разьбіраецца ў істотных патрэбах нацыянальных меншасьцяў. Трэба адзначыць, што, калі перад канікуламі мы мелі адналітны фронт меншасьцяў, дык цяпер *патварыліся align="">рознародныя групы,* якія можна падзяліць на: варожыя да польскае дзяржаўнасьці і стоючыя на грунце гэтай дзяржаўнасьці. *Слухаем жаданьні адных і другіх*, і на падставе зьбіранага матар'ялу ўрад здолее вырабіць сабе істотны абраз адносінаў сіл паадзінокіх груп. Сягоньня мы зусім ня ведаем (ох, ох!!!), хто стаіць за тэй ці іншай палітычнай групай, якая яе лічбавая сіла, які мае ўплыў і ці йдзе за ёй маса. Калі-б мы хацелі ўраз-жа прыхіліцца да тых ці іншых дамаганьняў нацыянальных меншасьцяў, дык маглі-бы зрабіць рад вельмі паважных дзеля будучыны абмылак“.

Пан міністар так шчыра разгаварыўся, папаўшы, пэўне-ж, у „благадушнае“ настраеньне пасьля добрага абеду і чорнае кавы і сказаў мо' больш, чым зьбіраўся. А перад усім выясьніў аканчальна, дзеля чаго віленская адміністрацыя „спладзіла“ Валэйшаўска-Паўлюкевічаўскую банду: дзеля таго, каб сказаць нашым выбарным, усенародным прадстаўнікам у Сойме, што ўрад „ня можа прыхіліцца“ да іх дамаганьняў роднае школы, бо... „мо' паны Валэйшы і Паўлюкевічы дамагаюцца нечага іншага...“ I хоць ведама ўсяму сьвету, што *за дэпутатамі йдуць тыя міліёны выбаршчыкаў-беларусаў, якія іх выбіралі*, ды якія *правалілі кандыдатаў варожае групы, што цяпер творыць нейкую „Часовую Беларускую Раду“*, за каторай з усяе беларускае масы стаіць адно... віленская „беларуская шулерня“, п. міністар робіць від, што ён „выясьняе“ сілы гэтых груп, а тымчасам *нікому нічога даваць ня зьбіраецца*!

Ня зьбіраецца правадзіць у жыцьцё новага языковага закону, бо даслоўна заявіў:

„*Гэты школьны год зьяўляецца годам падгатаваўчым*“...

Якія-ж перашкоды вынаходзе п. міністар, каб ня даць беларусам роднае школы, ня гледзячы на выданы закон?

„Трэба,—сказаў п. Міклашэвскі, прыгатаваць беларускія школьныя падручнікі, лічба якіх вельмі малая...“

Што гэта? Наіўнасьць, ці яўныя кпіны? Можам зусім катэгарычна заявіць, што гэта—*няпраўда*: школьных падручнікаў беларусы маюць даволі, каб забясьпечыць усе тыя школы, якія магчыма сяньня-ж адчыніць, выкарыстаўшы існуючыя ў гэты мамэнт вучыцельскія сілы. Дый што-ж зрабіў п. міністар, каб гэту—на яго пагляд — нястачу падручнікаў ухіліць? Абсалютна нічога! Бо-ж міністэрства ня толькі не прыгатаўляе беларускіх падручнікаў, але і ня зьбіраецца іх прыгатаваць: яно ніводнага злотага на гэта не асыгнавала!

Дык вось, гэтую „другую прычыну“ п. міністар можа зацягіваць на цэлыя гады, і школы беларускай тымчасам ня будзе. Будзе ўсё паўтарацца казка пра белага бычка: няма кніжак, бо ўрад іх ня хоча сам друкаваць, а надрукаваных беларускімі культурнымі ўстановамі прызнаваць ня хоча... На пытаньне-ж аднаго з журналістаў, *ці ў бюджэт на 1925 год устаўлены спэцыяльныя крэдыты на „крэсавыя“ школы*, п. міністар *ня даў выразнага адказу*! Ня даў, бо і ня мог даць: міністэрства асьветы, як сам-жа ён далей сказаў, нават *ня мае ніякага прадстаўленьня „колькі будзе на Крэсах школ польскіх, колькі двуязычных, колькі інародных“*.

Гэтак, міністар Міклашэвскі *не выпаўняе закону аб школе ў роднай мове* для нацыянальных меншасьцяў і *выпаўняць ані сёлета, ані на 1925 год ня зьбіраецца.*

За гэтыя прызнаньні п. міністра мы павінны быць шчыра ўдзячны. Точны пераклад іх на францускую мову *трэба канечне пераслаць у сэкрэтарыят Лігі Народаў*: няхай тамака ацэняць, як сьлед, што варты завярэньні дэлегата Польшчы аб „новым“ курсе нацыянальнае палітыкі ўраду п. Грабскага!

А для нас з іх—так сама цэнны вывад: не спадзявайцеся, беларусы, на ўрад, а *самі сваімі сіламі будуйце родную школу*!

*Ніякіх ілюзіяў. Што самі створым, то будзе наша*!

*) Словы міністра Міклашэвскага падаем усюды, паводле справаздачы „Dzien. Wil.“.

## Толькі з бою!

(*Віленскія „рэвэляцыі“ мін. асьветы п. Міклашэвскага*).

У сваей размове з віленскімі журналістамі міністар асьветы, п. Міклашэвскі, зрабіў вельмі цікавыя рэвэляцыі аб тым, як урад п. Міклашевскага і братоў Грабскіх прадстаўляе сабе школьную справу для „меншасьцяў“.

Якія-ж вывады можна зрабіць з слоў п. міністра?

Перадусім ясна, што ўрад п. Грабскага зусім **не сьпяшаецца** з увядзеньнем у жыцьцё закону аб беларускай школе! — „Законы аб мовах“ толькі „для Жэневы“ ўваходзяць у жыцьцё з 1/X (п. мін. кажа нават, што з 15/X!), але для „Крэсаў“ увесь гэты год будзе толькі „падгатаваўчым“. У працягу гэтага году ўрад будзе толькі „арыентавацца“ ў **палітычнай сіле** розных, як ляяльных, так і „варожых да польскай дзяржаўнасьці“ групаў, будзе ацэніваць іх, лічыцца з імі **прапарцыянальна да іх лічэбнай сілы і ўплыву на масы...**

Другі вывад—са слоў п. міністра—ня менш цікавы і важны. Міністар асьветы ставіць справу пашырэньня асьветы сярод даверанага яго „культурна-асьветнай апецы“ насяленьня ў простую залежнасьць ад **палітычнай сілы і палітычнага ўплыву** тых групаў ці арганізацыяў, якія прадстаўляюць ці маюць прэтэнсію прадстаўляць гэтае насяленьне... Адкінуўшы зусім, відаць, устарэўшы прынцып апалітычнасьці школы і асьветы наагул, п. міністар рашуча пацьвярджае слушнасьць тых, хто кажа, што дабіцца ў Польшчы здаваленьня нават такіх элемэнтарных правоў і патрэбаў, як родная школа, можна толькі арганізованай **палітычнай барацьбой**, абапертай на **„лічэбнай сіле масаў“** і на „ўплыве на масы“ блізкіх да іх **палітычных групаў.** П. Міністар асьветы пацьвярджае нават (—і зусім слушна!) і тое, што азнака „ляяльнасьці“ ці „варожасьці“ да дзяржавы тае ці іншае групы ў гэтым чыста палітычным заваяваньні сваей школы ня мае ніякага значэньня: справа вырашыцца толькі і выключна яе **палітычнай сілай...**

Мы ахвотна прымаем да ведама гэтае аўтарытэтнае тлумачэньне п. міністра, бо казалі заўсёды літэральна тое-ж самае.

Каб скончыць з цікавай віленскай размовай п. міністра, прайшоўшага, відаць, добрую палітычную школу ў эндэцкай партыйнай „акадэміі“, трэба яшчэ дадаць, што на зусім ужо няскромнае запытаньне, ці ў бюджэт 1925 году ўстаўлены спэцыяльныя крэдыты на „szkolnictwo kresowe“ (значыцца, і на беларускую школу, паводле новага закону аб школе меншасьцяў)—п. міністар „ня даў выразнага адказу“...

Ды—гэта-ж ясна само сабой — бо гэты 1925 школьны год—толькі „падгатаваўчы“, і, як сказана, сьпяшацца ані са школамі, ані з крэдытамі няма чаго: сваю „падгатаваўчую“ ролю... для пасьпеху прамоваў другога пана міністра—ў Жэневе—гэтыя „законы“ ўжо споўнілі...

Кароткі зьмест віленскага „экспосэ“ мін. Міклашэвскага цяпер для нас зусім ясны: польскі ўрад не сьпяшаецца з тым, каб даць беларускаму насяленьню беларускую школу, ня ведаючы—ня веручы, ці хопіць у беларускага народу **арганізаванай палітычнай сілы**, каб **змусіць да гэтага ўрад...**

Дык з гэтага для нас зусім ясна акрэсьліваецца самім польскім міністрам! задача: **стварыць, апіраючыся на лічэбную сілу народных масаў, гэтую арганізаваную палітычную сілу** і... так ці інакш **паказаць яе моц польскаму ўраду...**

Бо калі сама польская ўлада ставіць чыста культурна-пэдагагічную справу агульна-дзяржаўнага значэньня на грунт **чыста палітычнай барацьбы,** дык ужо апошнія сумлівы і хістаньні ў справе выбару тактыкі для беларусаў зусім трацяць падставу...

Усё робіцца зусім і да канца ясным!..

Можна толькі аб адным прасіць п. міністра асьветы: каб ён моцна і паступова трымаўся свайго „здаровага“ палітычнага прынцыпу і ня шукаў у іншых міністэрствах іншых, ня маючых нічога супольнага з народнымі масамі, „сілаў“ спэцыяльна дзеля **фалшаваньня** для яго „лічэбнае сілы масаў“, ды каб не тварыў штучна—„з асобамі

дзяржаўнага скарбу“ — тых ці іншых беларускіх „групаў“ і „ўплываў“, якія ня шырацца далей... Домініканскай ці Унівэрсытэцкай вуліцаў м. Вільні... **В.**



## Проці 8-гадзіннага дня працы.

Орган міжнароднага Бюро Працы ў Жэневе „Informations Sociales“ падае няведамыя дагэтуль даныя аб працы больш за 8 гадзін у польскіх прамысловых прадпрыемствах.

Вось-жа ў мінулым годзе міністэрства працы дало пазваленьне ўвясьці больш 8 гадзін працы 96 прадпрыемствам, у якіх працуюць 5.824 работнікаў. Агульная лічба дадаткавых гадзін працы дайшла 646,770.

Найбольш пазваленьняў выдана дрэваабробнай прамысловасьці і вырабу мэбляў (22 прадпрыемствы, 108.470 дадаткавых гадзін), пасьля будаўлянай (12 прадпр., 195.720 гадз.), валакністай (18 прадпр., 142.560 гадз.), далей мінаральнай, мэталёвай і спажыўчай.

Патрэбу прадоўжаньня дня працы вышэй 8-мі гадзін промыслы спажыўны, мэталёвы, будаўляны і мінаральны тлумачылі масай сэзонных работ; промыслы дрэваабробны, адзежны—нястачай памяшчэньняў і машын; а валакністы промысел — сьпешнасьцяй заказаў.

## Аб чым пішуць.

### Сумны месяц.

„Myśl Narodowa“ адзначае, што „здабычы“ міністра Скшыньскага ў Лізе Народаў у справах нацыянальных меншасьцяў Польшчы даюць мала пацехі з увагі на рад дужа сумных для Польшчы выпадкаў, якія мелі месца ў працягу месячнае сэсіі Лігі:

> „Гэты пекны месяц, гледзячы з далейшае гістарычнае пэрспэктывы, можна прызнаць іменна за „смутное время“, калі ўзяць пад увагу гэтыя ўжо абсалютна бясспрэчныя факты, што ў гэтым месяцы Расея бясцэльна ўмяшалася да справы Усходняе Галіччыны, Нямеччына выступіла з дамаганьнем Паморыя і часьці Горнага Сьлёнску, віленскае пытаньне ізноў выплыла на сьвятло, як у Жэневе, так і ў ангельскай прэсе, а дзеля насьмешкі над польскай сувэрэннасьцяй часьць расейскага балтыцкага флёту без папярэдняга абвяшчэньня паплыла на польскія воды.
>
> Аддаюцца вельмі наіўным ілюзіям тыя, хто думае, што, дзякуючы жэнеўскай паперцы, пратаколу з 2 кастрычніка і чатыром арацыям польскага дэлегата,... гэныя тры, ці лепш чатыры справы зыйдуць з парадку дня і з агітацыйных плякатаў: Горны Сьлёнск, „калідор“, Усходняя Галічына і Вільня. Іменна дзякуючы гэным міравым заклікам'ням і блутаніне, яны толькі і стануць на парадку дня—ня ўраз, не цяпер, а за некалькі месяцаў, за паўгода, стануць ужо сьмялей і мацней“.

Трэба толькі дадаць, што справа Вільні пэўне стане на парадку дня ўжо не як спорная справа між Літвой і Польшчай, а між Беларусяй і Польшчай: бо-ж Камінтэра разглядае Віленшчыну іменна, як складовую частку Заходняе Беларусі, якую жадаў-бы аб'яднаць з Усходняй Беларусяй... А здаецца, што гэткая пастаноўка справы для Польшчы больш небясьпечная, чым усе літоўскія дамаганьні Вільні. **А—віч.**

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### „Камісія экспэртаў да крэсавых справаў“.

На гэтым тыдні пачне ізноў працаваць вядомая „камісія экспэртаў да крэсавых справаў“, падабраная паводле асабістага смаку прэм'ера Грабскага — з п. п. Ст. Грабскім і Тугуттам на чале.

Гэтыя „экспэрты“, як ведама, стварылі тыя „ustawy językowe“, якія ніяк ня хочуць рэалізавацца ў жыцьці...

### Вывазныя махінацыі.

Лявіца „Wyzwolenia“ ў сваім органе „Wyzwolenie Ludu“ выкрывае „Cygańskie sztuki“ — ці вывазныя махінацыі „Гандлёвага Саюзу Польскіх Зямляробаў“, які раз зарабіў па спэкулянцку на вывазе 1,000 сьвіней, другі раз на вывазе 70,000 цэнтн. жыта зарабіў аж 815,000 злотых.

### Міністэрства Справядлівасьці і шыбеніца.

„Robotnik“ падаў сэнсацыйную вестку аб тым, быццам, міністэрства справядлівасьці афіцыяльнай паперай заказала міністэрству публічных работ выпрацаваць праект шыбеніцы, — дзеля выкананьня сьмяротных прысудаў.

Газэта сама ня верыла вестцы і зрабіла запытаньне аб гэтым міністру справядлівасьці.

У наступным нумары міністар праз ПАТ'а даў „sprostowanie“, з якога ясна, што гэткі „праект шыбеніцы“ быў заказаны, але толькі не цяпер, а яшчэ ў канцы красавіка, калі ў Сойм быў пададзены праект звальненьня войска ад абавязку выпаўненьня караў сьмерці, а з другога боку трэба было апрацаваць праект выпаўненьня сьмяротных прысудаў уладай цывільнай, — дык вось тады і зьявіўся гэты заказ „праекту шыбеніцы“.

Цікаўна толькі, — дзеля чаго гэты „заказ“ быў адрасаваны ў міністэрства публічных работ?

Ці можа ў габінэце пана Грабскага ўрадзілася думка — завясьці публічнае выкананьне караў сьмерці — дзеля „карнага ўзгадаваньня грамадзянства“ — і даручыць гэтую функцыю, як адну з „публічных работаў“ безработнаму міністэрству!?

Можа-б гэтае міністэрства атрымала і новы назоў: „Міністэрства Публічных Работ і Вешаньня?“.

Даволі гучна, а нават і стыльна!...

### „Cudowne ocalenie“ ваяводы Довнаровіча.

„Robotnik“ падае цікавы дакумант Пінскага старoства з дня 26.IX.1924 г., у якім заступнік старосты Фр. Усаевіч паведамляе, што „заўтра, 27-IX, у 9 гадз. раніцы, адбудзецца ў касьцёле айцоў Езуітаў „dziękczynne (вось дык так!) nabożeństwo“ з прычыны „cudownego ocalenia“ пана ваяводы ў часе нападу 24-IX 1924 г.

Бедны п. Усаевіч! — Ён думаў, што дзень 24.IX, як калісьці дзень 17.X — у Расеі (таксама „цудоўнае спасеньне“ царскай сям'і ў часе катастрофы цягніка пад Боркамі!), будзе абвешчаны дзяржаўным сьвятам і, — зразумела — стараўся! А замест таго — цудоўна „ocalony“ ваявода пацярпеў ад свайго-ж ураду!

### Напад на панскі палац.

У ноч на 8-X банда, зложаная з 14 асоб, з рэвальвэрамі і стрэльбамі напала на маёнтак Эйсмантаў— каля в. Мошчаніцы, Дубнен. пав.

Падайшоўшы да палацу, бандыты абсыпалі яго бомбамі, кідаючы іх праз вокны ў сярэдзіну дому. Усе, хто быў у доме, уцяклі; засталася толькі адна служанка, якая пачала бараніць панскае дабро. — Яе забілі, у палацу забрана грашмі 12,000 злотых, апрача вопратак і цэнных рэчаў. Забіты два кані, 12 кароў і 50 кур. Пушчаны з дымам стог збожа.

Пагоня была выслана зараз-жа і злавіла толькі аднаго бандыта, Гаўрылу Андрэйчука. Схоплены бандыт паказаў (зразумела!), што банда была арганізавана і ўваружана радавымі ўрадамі...

Рэшта ўкрылася ў лясок. Па сьледу „пасоўваецца“ пагоня паліцыі... („Rob.“).

### Напад у Сьвянцяншчыне.

10-X 5 бандытаў, уваружаных рэвальвэрамі і стрэльбамі, напалі на дом Józefa Łapcika — ў в. Сыманы, Кабыльніцк. гм., Сьвянцянск. пав.

Лапцік даў адпор бандытам, якія за гэта забілі яго, пасьля чаго зрабавалі ўсё чыста і на падводах павязьлі за літоўскую граніцу.

### Цукер мае падаражэць.

Цукравары дабіліся такі ад ураду павялічэньня цаны цукру. Яны дамагаліся падняцьця яе да 94 зл. за 100 кіляграмаў, але ўрад згодзіўся толькі на 65 зл.

Гэта значыць, што кілягрaм падаражае на 10 грош. проці старое цаны.

## Заграніцай.

### Голад у СССР.

Паводле афіцыяльнага камунікату ўраду СССР, голад пагражае 7 мільёнам людзей.

### Нямецкая пазыка ў Францыі.

Французскія банкі гарантавалі ўсю французкую частку міжнародавай пазыкі для Нямеччыны.

## Народ сам сабой.

Нашы песьняры—гэта найлепшае люстра, у якім адбіваецца душа нашага народу, усе яго жаданьні, імкненьні, настроі.

„Песьні жальбы“ адно толькі ўмеў пяяць Колас у часы чорнае расейскае рэакцыі пасьля 1905 году. У тон яму іграў на сваей „Жалейцы“ Купала. І ўся наша адраджэнская даваенная паэзія—гэта адна песьня пакуты, ў каторай толькі ад часу да часу прарываецца іскра бунту.

Бо-ж такі настрой панаваў сярод беларускага народу. Бо ўсё гэта—запраўдныя перажываньні беларускае сярмяжнае масы.

Але прыйшлі іншыя часы: вайна, а пасьля вайны—Вялікая Расейская Рэвалюцыя. На вачох нашага народу валяцца сьцены адвечнае „турмы народаў“. І ў душы беларуса ціхнуць тоны пакутнае песьні, а замест яе грыміць магутная песьня барацьбы і радасьці вызваленага ўрэшце з няволі раба!

Гэтыя „новыя мамэнты ў псыхіцы беларускага народу“, як слушна заўважыў „Дрыгвіч“ у часапісі „Przegląd Wileński“, знайшлі сваё яркае адбіцьцё ў сучаснай беларускай паэзіі. „Дрыгвіч“ затрымліваецца, аднак, толькі на двух нашых песьнярох: Коласе і Купале,—ды ў іх творчасьці знаходзіць новыя нацыянальна-палітычныя і рэлігійныя (ці хутчэй процірэлігійныя) настроі.

„Вось,—кажа „Дрыгвіч“,—Колас у „Водгульлі“, зборніку вершаў з 1922 году, зварачаючыся да беларускага люду, гавора аб тым, што ўжо пара змоўкнуць песьні пакутнай, надыходзе час, калі край мае парваць старыя ланцугі, запяяць новую песьню. Трэба ўсім згодна, сьвядома станавіцца на барацьбу, бо **шчасьце, воля, вызваленьне самі к нам ня прыйдуць**. Колас заклікае народ, каб пераканаўся, што толькі мы самі здолеем выкаваць новую долю сабе, бо-ж ужо мінуў той час, калі нас усе папіхалі, бо ўжо цяпер можам жыць і бяз чужых павадыроў („Беларускаму Люду“). А сьледам за гэтым у „Поклічу“ Колас кліча, каб усе чым хутчэй уставалі, каб ішлі да народных масаў—пачарпнуць тамака амаладжаючага і ўзмацоўваючага паветра, ды каб там стараліся зразумець новыя патрэбы і жаданьні народу.

„Але йшчэ больш выразна выяўляецца гэты пералом у Купалы („Спадчына“ з 1922 году). Купала сьвядома гавора і кліча, прамаўляе ад імя міліёнаў, бо церпіць і думае за міліёны. Быццам агнём палаюць словы, калі пяе да народу, ўжо поўжывога ад адвечных путаў: ...Паўстань, народ! Прачніся, беларусе! Зірні на Бацькаўшчыну, на сябе! Зірні, яе вораг хату і зямлю раструсіў, як твой навала злыдняў скарб грабе!“ Паўстань і глядзі на агні наўкола, на гістарычныя перамены, што носяцца, бы віхры; паўстань, народзе, і сам распачні будову, каб сусед так не перашкаджаў, ды памятай, што **тых, хто ўпадзе, сьвет затопча...** Заўсёды памятай, што толькі сіла, сіла ўсялякага роду перамагае, сіла выклікае пашану, — памятай аб гэтым, а мора крыві і сяньняшніх сьлёз хай сьведчыць табе аб праўдзе слоў маіх. Асьлеплены відам гэтае вялізарнасьці няшчасьця, якое яму здаецца ўкрытым у гэтай неахвоце да барацьбы, кліча („Час“), што й нам трэ' брацца за цапы і косы, пакуль „раса“ воч ня выела. А дзеля гэтага хай званы зазвоняць магутна, музыка хай загрыміць, а ўвесь народ, як адзін чалавек, хай узьнімецца бараніць Бацькаўшчыну на тым Вялікім Сходзе Народаў. У захапленьні, у вялізарнасьці болю і захвыту ад новага віду, ён ужо ня думае аб Богу: „У народ і край свой толькі веру і веру ў самага сябе“.

„А нядаўна йшчэ,—кажа „Дрыгвіч“, — яшчэ зусім інакш гучэлі струны ліры Купалы. Нядаўна йшчэ Купала спадзяваўся толькі на Бога... Цяпер лічыць толькі на сябе і на фізычную сілу, дык і да сьмеласьці, да адвагі заклікае: адважна скінь ярмо з сябе, ідзі наперад, вядучы за сабой другіх...“

„Але куды-ж пойдзем?“ — пытаецца „Дрыгвіч“.—На ўсход, ці на захад? Якой орыентацыяй кіруецца сяньня беларускі народ?

Адказ на гэтыя пытаньні „Дрыгвіч“ знаходзіць у Купалы.

„Паэт і тутака йдзе новай дарогай, ня кіруецца ані на ўсход, ані на захад, бо мы лішне ўжо добра пазнаёміліся з путамі і бізунамі, якімі галубіў нас „ваш Захад і Усход“. Дзеля гэтага годзе ўжо і ўсходняе і заходняе культуры, бо дагэтуль вас мы пазналі з аднаго толькі боку, а іменна, што з чужога сэрца вы-б хацелі выссаць усю кроў аж да дна. Ізноў-жа народ ужо так далёка зайшоў на сваей новай дарозе, што назад ужо не паверне, адважна зломе ўсе перашкоды і створыць сабе новыя варункі. І гэтак мусіць быць, бо хваце ўжо нам самых сябе на гэтай дарозе, бо далей ня хочам трымацца за чужую, апякунскую руку, бо мы даволі дужыя, новыя думкі ў нас нарадзіліся і клічуць да змаганьня, да барацьбы за праменнае заўтра, гдзе запанавала-бы ясната бяз учарашніх стогнаў і сяньняшніх скрыготаў!!!“

Вось, што знайшоў „Дрыгвіч“ новага ў беларускай паэзіі і, **значыцца**, у псыхіцы беларускага народу. Але ці то ўбаяўся „Дрыгвіч“ сваіх улас-

### Рэалізацыя „пляну Доўса“.

Ад мамэнту падпісаньня ўмовы аб рэалізацыі міжнародавай пазыкі для Нямеччыны ўвайшлі ў сілу ўсе законы, прынятыя парлямантам у зьвязку з праўдзеньнем „пляну Доўса“.

Камісія да спраў адшкадаваньняў сцьвярдзіла ізноў поўную ляяльнасьць нямецкага ўраду ў выпаўненьні ўсіх варункаў рэалізацыі пазыкі і пляну Доўса.

### Першы Цэпэлін з Нямеччыны ў Амэрыку.

12/X раніцай выляцеў з Нямеччыны ў Амэрыку першы Цэпэлін (агромны паветраны карабель), робячы каля 120 кілям. у гадзіну.

### Выбары ў Англіі.

Выбарная праца кіпіць.

Ужо выстаўлены 1350 кандыдатаў. З гэтага ліку па 500 выставілі работнікі і кансэрватары, 350 — лібэралы.

Як ведама, у распушчаным Парляманце (Сойме) кансэрватары мелі—259 месцаў, лібэралы—153, работнікі—193.

Лічба ўсіх выбаршчыкаў у Англіі—21 мільён.

Ніводная з партыяў ня мае надзеі атрымаць абсалютную большасьць (больш паловы ўсіх мандатаў).

Кансэрватары і лібэралы вельмі нездаволены гэткім кароткім тэрмінам выбарнай кампаніі, да якой ужо даўно цішком рыхтавалася Партыя Працы.

Лібэралы (—галоўныя ворагі работніцкай партыі) будуць вясьці проці яе заядлую вайну. Яны дадалі да сваей старой плятформы яшчэ новыя пункты, каб перацягнуць на свой бок народныя масы. Лёйд-Джорж, як пішуць, мае думку стварыць „вялікую каліцыю“ з лібэралаў і кансэрватараў, але кансэрватары штосьці не адказываюць прыхільна на гэтыя заклікі Лёйд-Джоржа, думаючы самастойна атрымаць значную большасьць на выбарах.

Калі-б апошняе зьдзейсьнілася, дык гэта мела-б вялікі ўплыў на жыцьцё ўсяе Эўропы, бо паводле Англіі, як і дагэтуль, кіраваліся-б і іншыя дзяржавы, і Эўропа прайшла-б праз новы пэрыяд рэакцыі.

Англійскі парлямант адкінуў-бы тады ня толькі англа-радавы дагавор, але і „міравы пратакол“, толькі што ўложаны ў Жэневе.

### Сацыялістычны орган проці Мак-Дональда.

Уплывовая сацыялістычная газэта „Naw Statesman“ востра атакуе Мак-Дональда за тое, што яго асабістая амбіцыя выклікала ўрадавы крызіс, для якога няма ніякай рэальнай падставы.

### Турэцкі адказ англійскаму ўраду.

Толькі цяпер англійскі ўрад атрымаў турэцкі адказ на сваю ноту, якая, як мы і думалі, была ультыматумам, вымагаўшым да 12 гадз. 11-Х ачысьціць ад турэцкіх войск граніцы Мосульскага віляйету, пагражаючы пасьля сроку „пакінуць сабе свабоду дзейнасьці“.

ПАТ нічога ня кажа аб зьмесьце адказу, але з таго, што ўжо пасьля англійскай ноты ангорскі ўрад **яшчэ павялічыў** лічбы сваіх войск у раёне Мосулю, відаць, што ён — ня вельмі спалохаўся ультыматуму і гатовы на ўсё...

### Высылка „obcokrajowców“-грэкаў з Турцыі.

З Канстантынопаля даносяць, што турэцкі ўрад высылае з граніцаў Турцыі 50.000 грэкаў. На ліквідацыю справаў ім дадзена 10 дзён, пасьля чаго яны будуць „odstawieni na granicę Rzeczypospolitej... Tureckiej“.

### Паражэньне вагабітаў (?).

У Лёндан з Ерусаліму даносяць, быццам, новы Кароль Гэджаса разьбіў войска вагабітаў пад Мэккай (штосьці—мала падобна да праўды.—*Рэд.*).

## Камісія Беларускай Цэнтральнай Школьнай Рады

**ад 27. IX да I. XII 24 г. ў суботы ад г. 5 ўвеч. і ў нядзелі ад II раніцы ў памешканьні Беларускай Гімназіі (Вострабрамская 9) будзе экзаменаваць беларусаў вучыцялёў, ня маючых пасьведчаньня з беларусазнаўства, а жадаючых мець такое дзеля аткрыцьця беларускай школы.**

**Кандыдаты да экзаменаў павінны ведаць: 1) Беларускую мову, 2) Гісторыю беларуск. літэратуры, 3) Гісторыю Беларусі і 4) Як арганізаваць і весьці беларускую школу ў сучасных варунках, а такжа павінны будуць напісаць беларускае выпрацаваньне на тэму, якую самі выдумаюць.**

*Бел. Цэнтр. Шк. Рада ў Вільні, Віленская 12—6.*

### Пастанова італьянскіх лібэралаў.

Італьянскія лібэралы, за выключэньнем правіцы, заявілі рашуча, што ня прымуць учасьця ў парляманцкай працы, пакуль урад Мусоліні ня выпаўніць іх прынцыповых варункаў, забясьпечваючых нармальныя адносіны ў краі.

### Пагроза ўрадавага крызісу ў Югаславіі.

У габінэце правадыра дэмакратаў Давідовіча, які атрымаў уладу пасьля ўпаду габінэту нацыяналіста Пашыча, пачаліся ўнутраныя спрэчкі. Прычынай гэтых неладоў—паразуменьне прэм'ера Давідовіча з правадыром харватаў Радічам, што выклікала абурэньне на правым флянгу ўрадавай коаліцыі. Ваенны міністар ген. Гадіч падаўся ў адстаўку, зварачаючы прэм'еру ўвагу на ўсе „небясьпекі“ ўваходу ў урадавую коаліцыю групы Радіча, што пагражае—быццам, самаму істнаваньню Югаславіі (ці правільней: гэгемоніі ў ёй сэрбаў).

Але Давідовіч і рэшта міністраў не спалохаліся і прынялі яго адстаўку спакойна.

Радіч ад імя харватаў заявіў, што яго група дэлегуе аднаго ці колькіх сяброў у склад ураду, каб толькі не дапусьціць да адстаўкі габінэту і павароту да ўлады ненавіснага Пашыча. Радіч абяцуе не вясьці больш варожай да S.-H.-S. (Югаславіі, або Сэрба-Харвата-Славоніі) незалежніцкай прапаганды, калі ў межах сучаснай дзяржавы злучаных народаў будзе магчымасьць разьвівацца свабодна харвацкаму народу.

Гэты вялікай прынцыповай вагі факт у дзяржаўным жыцьці Югаславіі падмуроўвае яе падставы мацней, як усялякія трактаты ці белы тэрор ураду Пашыча. Пашыч сваім тэрорам толькі разагрэў—амаль не да аружнага паўстаньня — свае „харвацкія Крэсы“, трымаючы каля 70 выбарных дэпутатаў харвацкага народу разам з іх правадыром па-за парлямантам і ня пускаючы да краю.

Але шчыры дэмакрат Давідовіч здалеў зрабіць тое, што той „страшны Радіч“,—„камуніст“ і „здрайца“, якім так лоўка пужаў сэрбаў і караля спрытны Пашыч, зьняў сьцяг незалежнасьці, каб разьвярнуць толькі сьцяг нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі ў межах супольнай—саюзнай дзяржавы...

І на гэтае зусім шчыра ідзе Давідовіч.

## ХРОНІКА.

**ГРАМАДЗЯНЕ! Памятайце, што ў гэту пятніцу, 17 кастрычніка, — збор ахвяр бялізнай і вопраткай сярод сяброў Камітэту пом. ахв. вайны на Беларускі Прытулак у Вільні!**

**Памажэце бедным дзеткам!**

**Агульная зборка на вуліцах пастановай Камісара Ураду перанесена на другую пятніцу, 28 кастрычніка.**

**„Зялёнадубскія“ банды.** Банды так званых „зялёнадубцаў“, створаныя дзеля дывэрсыйных нападаў у Радавай Беларусі яшчэ за „панаваньня“ п. Пілсудскага і так аскандаліўшыяся ў часе выбараў у Сойм і Сэнат,—як нас інфармуюць,—знудзіліся без „работы“ і пачынаюць ізноў варушыцца. Рукі сьвярбяць! Ці не пачнуць трашчэць сялянскія скрыні, і без таго добра пачышчаныя „мірнымі“ спосабамі?!

**Францішканы і Базыльяны.** Ужо некалькі гадоў польская эндэцкая мястовая рада пад камандай п. Студніцкага вядзе кампанію з тэй мэтай, каб выкінуць беларускія ўстановы з Базыльянскіх муроў і забраць і муры і царкву ў польска-каталіцкія рукі.

Сьпярша той-жа Студніцкі выдумаў паганую брахню, быццам, у гэтых мурох камэру, служыўшую некалі за вязьніцу Ад. Міцкевіча, расейская ўлада абярнула ў клязэт, а беларусы трымаюць яе і далей у гэткім стане, каб зьбясчэсьціць вялікага песьняра нашае Зямлі. Але беларусы на падставе навуковых дасьледаў давялі, што гэта звычайная брахня і зьвяга.

Тады той-жа Студніцкі падняў крык, што цэнтральны архіў, які знаходзіцца пад яго, Студніцкага, кіраўніцтвам і зьмяшчаецца ў б. Францішканскім касьцёле, ня можа там далей аставацца, і яго трэба перанясьці ў... Базыльяны! Былі пушчаны ў рух і ксяндзы, якія, лічучы, што ў Вільні колькі дзесяткаў касьцёлаў — помала для насяленьня (!), пачалі дамагацца ад ураду звароту ім Францішканаў.

Мала таго: Студніцкі знайшоў хібы і ўнівэрсытэцкім гмаху, дзе месьціцца дзяржаўны архіў, і ізноў-жа пачаў дамагацца пераносу яго ня куды ў іншае месца, а ізноў-жа толькі... ў Базыльяны!

Як-жа расчараваліся арганізатары паходу проці Базыльянаў, калі міністар Міклашэвскі, на падмогу якога яны спадзяваліся, агледзіўшы дзяржаўны архіў, прызнаў, што памяшчэньне яго—„не найгоршае!“

Цяпер эндэкам хіба трэба ўзяць Базыльяны штурмам, як гэта зрабіла клерыкальная „Ліга Рабочая сьв. Казіміра“, заграбіўшы куплены некалі за гатовыя грошы архірэйскі дом. І ніякі суд у Польшчы ня выкіне захватчыкаў чужога дабра, бо яно... „праваслаўнае“.

**Да выезду М. Красінскага.** Нядаўна пакінуў Вільню і Заходнюю Беларусь, кіруючыся на Ўсход, выдатны пэдагог і вядомы беларускі дзеяч, Мікалай Красінскі.

З прычыны розных сэнсацыйных вестак дэфэнзыўнага паходжаньня, друкаваных у віленскіх газэтах, мы пастараліся праверыць гэтыя весткі і выясьніць, што запраўды сталася з грам. Красінскім у Менску.

Аказваецца, што грам. Красінскі знаходзіцца ўжо ў **Маскве**, скуль пісаў да сваей сястры ў Вільню.

Па прыезьдзе ў Менск, грам. Красінскі атрымаў прапазіцыю заняць становішча **кіраўніка беларускае драматычнае студыі ў Маскве**, якое і заняў.

Як ведама, грам. Красінскі стварыў быў гэткую студыю („Драматычную Майстроўню“) ў Вільні. На жаль, гэтая карыстная культурная ўстанова з прычыны больш чым халодных адносінаў да яе беларускага грамадзянства—развалілася.

**Новая літоўская газэта.** У Вільні пачала выхадзіць новая літоўская газэта „Vilniaus Balsas“. Газэта будзе выхадзіць тры разы на тыдзень.

**З жыцьця „малога гарнізону“.** „Kur. Wil.“ піша, што афіцэры аднаго з палкоў адмовіліся даць складку па 5 злотых на абед для Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі.

„Słowo“, перадруковываючы гэту вестку на адказнасьць „Kur. Wil.“, як робім гэта і мы, дадае

ных вывадаў, ці ня меў магчымасьці пазнаёміцца з творчасьцяй усяго таго новага пакаленьня нашых песьняроў, якое зрадзілася пад гарачым подыхам Рэвалюцыі і якое йдзе на замену сваіх духовых бацькоў—Коласа і Купалы, даволі толькі таго, што ён стараецца некаторыя з гэтых сваіх вывадаў **аслабіць**. З усей моцай адзначаючы факт, што душа беларускага народу **зрэвалюцыянізавалася**, „Дрыгвіч“, аднак, у адносінах да рэлігійных паглядаў беларусаў робіць засьцярогі: „паскольку маса рэвалюцыянізуецца з боку актыўнасьці, дык з боку рэлігійнасьці астаецца тэй самай“. „Дрыгвіч“, відаць, не агледзеўся на ўвесь ход разьвіцьця беларускае ідэалёгіі, у якой „бунт проці Бога“ мае сваю гісторыю, пачынаючы ад Кастуся Каліноўскага, ідучы праз Мацея Бурачка і Купалу, ды канчаючы **наймалодшымі** нашымі песьнярамі, як, да прыкладу, Міхась Чарот, каторы ў сваей паэме „Босыя на вогнішчы“ кліча: „Цэрквы, палацы, харомы—памяць мінулага—з дымам! Што не запалім мы—зломім!“... А што пяе „Сваяк“ у „Маей леры“? Няўжо-ж такія настроі родзяцца **толькі** ў паэтаў? Няўжо-ж яны магчымы ў іх, калі іх уласны народ, крыніца іх натхненьня і творчых сіл, чуе і думае наадварот?

Нішто ня творыцца — от, так сабе, з нічога, бяз дай прычыны. Нават выбух Рэвалюцыі—гэта-ж заўсёды толькі завяршэньне глыбокіх унутраных зьмен у душы народу, якія рабіліся памалу і ў працягу доўгага часу, пакуль дайшлі да сьвядомасьці народнае, выліліся ў канкрэтныя абразы і клічы і павялі народ на барыкады. І абмылка „Дрыгвіча“ ў тым, што ён не даволі глыбока і лішне вузка падыйшоў да вельмі цікавага пытаньня аб „новых мамэнтах“ у беларускай псыхіцы. Бо ён робіць яшчэ і другую абмылку, прыпісываючы Купале адкрыцьце новае дарогі для беларускага народу: ані на захад, ані на ўсход! — Хаця гэтую дарогу ўжо вызначыў акт 25 сакавіка 1918 году: абвешчаньне **незалежнасьці** Беларусі—бяз ніякіх уклонаў ні да Масквы, ні да Варшавы...

Урэшце „Дрыгвіч“—сьвядома, ці мо' несьвядома—абмінуў яшчэ адзін мамэнт у беларускай псыхіцы: гэта—мамэнт **сацыяльны**. Пераход беларускае масы ад пасыўнага напяваньня „песьняў пакуты“ да актыўнасьці абняў ня толькі сфэру культурнае самастайнае творчасьці, ня толькі будаваньне свайго нацыянальна-палітычнага жыцьця, але і жыцьця сацыяльнага. Усе нашы сучасныя песьняры, што адбіваюць у сваіх творах душу **сяньняшняга** беларуса, гэта—сыны сялян і работнікаў. А актыўнасьць нашых працоўных масаў ні на адзін мамэнт ня можа забыцца аб сацыяльным уціску нашага народу. І не дарма Колас у „Поклічу“ напамінае аб „мазалёх“ беларуса, не дарма Цішка Гартны пяе „песьні **працы** і змаганьня“, не дарма ўсе наймаладзейшыя нашы песьняры ўсьцяж зачапляюць ідэю **сацыяльнага вызваленьня**...

Так, да пералічаных „Дрыгвічом“ „новых мамэнтаў“ у беларускай народнай псыхіцы, якія ўсе грунтуюцца на **актывізацыі** баларускае душы, трэба—побач з ясным вызначэньнем „орыентацыі“ **на самога сябе** і ў палітычным, і ў культурным, і ў духовым жыцьці—дадаць яшчэ і вызначэньне сацыяльнае дарогі.

Тады абраз, дадзены „Дрыгвічом“, будзе зусім поўны: ў-ва ўсіх галінах жыцьця беларускі народ перайшоў ужо да актыўнасьці пад лёзунгам: **Самі сабой!**

Ант. Навіна.

ад сябе, што калі гэта праўда, дык, відаць, „афіцэры гэтага палка запраўды ня вельмі сабе цэняць прыемнасьць паабедаць у кампаніі з Прэзыдэнтам Рэспублікі“...

**У пэпэсаўскай сям'і.** Да партыі ППС належаць, паміж іншым, і дзе-якія паны-абшарнікі. Між імі і абшарнік з Беларусі, Дэмідэцкі-Дэмідовіч. Вось-жа адзін з партыйных дзеячоў ППС, А. Ржэўскі, б. прэзыдэнт м. Лодзі, у сваей палеміцы з партыяй горка папікае п. Дэмідэцкага — „таварыша-абшарніка“, што ён ня прыймае ў свае маёнткі сіротак з работніцкага аддзелу апекі над работніцкім дзіцяцей.

Добрая партыя, добрыя „таварышы-абшарнікі“!

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар*!

Не адмоўце ў сваей газэце зьмясьціць ніжэй напісанае.

Ня ведаючы добра людзей, кіруючых газэтай „Грамадзкі Голас“, я меў няшчасьце зрабіцца іх карэспандэнтам. Умовіў мяне нейкі п. Валэйша, абяцуючы 200 злот. у месяц.

Атрымаўшы пасьведчаньне за № 17/3 ад 3 верасьня г. г., я выехаў у Лунінецкі павет на працу. Зьвярнуўшыся 12 кастрычніка да Валэйшы за пэнсіяй, я атрымаў там адказ, што я больш ужо не патрэбны.

Мне ня шкада сваіх грошаў, зробленых працай, а шкада таго, што да гэтага часу ёсьць магчымасьць існаваць падобным авантурнікам, якія яшчэ ні аднаго могуць ашукаць.

З пашанай *Уладзімер Шубаловіч.*

г. Лунінец.
Царкоуная вул. 77.

# Карэспандэнцыі.

## Без перамен.

(*Пацаўская гміна, Слонімскі пав.*).

Нічога новага ня суліць нам беларусам і гэты школьны год. Як мы даведаліся з пэўных крыніц, беларускае школы ў Слонімскім павеце немагчыма будзе адчыніць і гэты год, **можна толькі тайна,** бяз ведама школьнага павятовага інспэктара, з добрае волі сялян. Языковые законы, якія гарантавала нам Польская Рэспубліка, у сутнасьці „мёртвыя“ і да таго зыйшлі яшчэ на непарушны грунт, з якога ня могуць скрануцца. Цікава, дзеля чаго ў Польскім Сойме за гэныя самыя законы падымаліся яшчэ сваркі? Мусіць польская большасьць хацела імі толькі ап'яніць голавы нацыянальным меншасьцям! Гэтак заўсёды, што гарантуецца вышэйшымі ўладамі, пакуль увойдзе ў жыцьцё, то абавязкова „крэсавы“ вецер разьвеець... А тым часам польскае вучыцельства ня сьпіць і ўсемі сіламі стараецца навязаць беларусам польскую школу.

**М. Жальба.**

## Цягаюць.

(*З Слонімскага пав.*).

27 верасьня, ідучы з места Слоніма па Віленскім шляху, бачыла гэтакі сумны абразок.

Сялян Пацаўскае гміны. в. Раданіца, каторыя не заплацілі падаткаў і страхоўкі, — бо ня мелі грошы,—сабралі ў стада, як скаціну, і гналі ў Слонімскі вастрог пехатой на працягу 60 вёрст. Гналі мужчын і жанок. Былі і хворыя людзі: жанчына і стары чалавек. Дакуль-жа гэта будуць з селяніна цягнуць апошнія сокі і цягаць за ўсё —па вастрогах?

**Жалейка.**

## Самагубствы.

(*Плісса, на Дзісеншчыне*).

Адны губяць сябе праз нячывель ад бяды, а другія праз свай дур ад каханьня.

Ня так даўно ў нашым Прытушчанскім кутку, у вёсцы Ліплянах, застраліўся спаралюжаваны на ногі здольны старык, сьлёсар Невядомскі. Прычына самагубства: утрата працаздольнасьці, матэр'яльная незабясьпечанасьць і невылячальная хвароба.

Надовячы-ж (з суботы на нядзелю вечарам 13-га верасьня) ў вёсцы Дзесянцінах застраліўся малады хлапец Грышка Струнец. Але раней, чымсь застраліцца самому, застраліў чатырма стрэламі з рэвальвэра сваю каханку, суседку па вёсцы, жыдовачку Сэйну Бэрзон, за тое, што тая па двухлетнім з ім каханьні здалася на волю сваіх бацькоў і згадзілася выйсьці замуж не за яго, а за жыдка, свайго аднаверца.

**Пушчабік.**

## З жыцьця прытулку.

(*Сьвянцяны*).

Ось каму ў нас жыцьцё, дык дзіцям у прытулку! Усе апякуны, усе Соймікі бярыце з нас прыклад!

Кіраўнічыха нашага прытулку, Шыліншчыха, не абы якая кабеціна, — з адукацыяй, — па складам добра нат' разьбірае. І дзеткі пры ёй з маральнага боку добра дагледжаны: некаліс у жандармскім пада-фіцэрскім касыно буфэтовай была, дык на тахце знаецца і цяпер усё з вышэйшымі людзьмі „пачку“ водзе: са Старасьціхай, рознымі Кіраўнікамі; а на нашага брата селяніна нат' не глядзіць.

А апякуна, дык надта ўжо добрага мае прытулак: — пана Гасліноўскага (рэфэрэнта грамадзкае апекі з Сойміку, што над Шрэйберыхі аптэкай стаіць). Чалавек гэны—шмат вучоны: за цара дык дзьве з паловой клясы пачатковай школкі скончыў, цяпер дык па восьмай клясе грошы бярэ. Ен, бачыце, гаспадар з гаспадароў, эканомны і мастак на ўсе рукі, лячыць добра можа (больш на трахоме знаецца), сьледчым, дык што і гаварыць — яшчэ як патрафе, з незлодзея канакрада зробе, ну і інжынерам можа быць, — ну, значыцца, і наш прытулак „рамантаваў“. Праўда, дзе-не-дзе страху рэшатам прыкрылі, бо гонту не хапіла, дык часценька пад дожджык дзеці ў ложках мыліся і ў вадзе плёскаліся, да ўмывальніка йсьці ня трэ' было; ну, а як суфіты пачалі дзецям на галовы скікаць, то тож нічога, бо дзеці сіроты й сялянскія, дык галовы маюць моцныя, ну і вытрымалі. Што зімою крыху і сьцюдзена было, то і то нічога: дзеткі перацярпелі, а хто ня выцярпеў, дык памер, на тыфус перахварэў, а шмат і выздаравела. Наагул, малая „рэдукцыя“ была, і пахваліцца нечым было. Ну, ўжо прадукты купляць, дык ён, і як можа, усё танна купляе, толькі нешта як з пару дзён прадукты ў яго на складзе паляжаць, дык чэрві заводзяцца і грыбок парастае. Тады ім доўга ляжаць не дае, каб актаў ня сьпісываць і дар Божы не марнаваўся, зараз-жа ў прытулак да нашай Кіраўнічыхі адсылае, а тая страву з іх вара, толькі не для сябе, Крый Божа, — шкадуе, а больш для дзяцей, а дзеці дык ядуць, аж ушы трасуцца. Страва густая і шкваркі плаваюць, крыху дзіўныя, бо доўгія і зялёныя, але нічога: дзе там разьбіраць! Як агуркі недзе, на суха, у агародзе у цеста пракіснуць, дык і іх не марнуюць, дзецям у прытулак шлюць, а дзеці ядуць, толькі Кіраўнічкых паквітаваньня з падзякай упраўляецца слаць. Ось, як кароўка ў нас Бог ведае ад чаго здыхаць пачала, дык зараз-жа ей востры гваздок пад сэрца, і ў акце запаленьне мазгоў прапісалі, а дзецям на тры тыдні акрасы было. Нічога не марнуем: зьмяцін у складзе крыху зьбярэцца, зараз іх на млын' з млына да нас, ну а мы хлеб пячом. А хлябок выходзе, усім хлебам-хлеб: і сытны і на доўга хапае: дзеткі як пад'ядуць у панядзелак, дык да чацьверга есьці ня хочуць, жываты паўнёханькія, бурчыць толькі і дух ідзе! Дзеткі тады ледзь ходзяць, часьцей у ложках разваліваюцца і са сьмехам кажуць, што „валавяную клецку“ елі. Раз доктар дык камэдыю зрабіў, хлеба гэнага есьці дзецям не дазволіў, а дзеці з'елі, і ні адзін не мамер, толькі затое Зосю пекарыху з прытулку вон выгналі, — бо ня ўмела з гэтай мукі хлеба добрага выпячы. А цяпер, дзякуй Богу і Сойміку, дзеці што дзень, замест хлеба пшанічныя булкі ядуць. Спытаецеся, чаму-ж аж так добра? А от чаму-ж: у Сойміку, бачыце, ад Вялікадня пшанічная мука асталася, тая, што Соймік дзеля канкурэнцыі жыдом ад варшаўскіх купцоў выпісаў, а дурні купляць ад Сойміка не хацелі. Прышла, знацца, мука тая акурат у Вялікую Суботу, як бабы ўжо з печы пірагі выймалі, сьвяньціць нясьлі, дык мала хто тады да яе і дарваўся. Са два вагоны, кажуць, ды надта ўжо добрай прышло амэрыканскай у чатыры нулі: крыху можа і шэравата была, на смак дык перцам аддавала ды ў зубох хрушчэла, але на два грошы танейшая ад чыста белай жыдоўскай была. Ну, як пачалі яе, значыць, з вагону выгружаць, дык ніяк не давалася, улеглася, як мур які, і ані з мейсца! Прыйшлося абухом мяшкі абіваць, бо іначай хоць вагону сьцены разьбірай, ня выймеш. Вазілі тую муку і да таго і да другога крамніка, і цану ніжэй сабе вартасьці скідалі, ні адзін, з дуру відаць, ня ўзяў, а можа і забаставалі. Узялі тады муку і са два вагоны з паловай зсыпалі ў склад да пана Гасліноўскага пад апеку, ну і што-ж вы думаеце? За два дні адысподу як грыб не нарасьце, як яна ня ўляжацца, як бы гэта мейсца на век аблюбавала! Тут яе і калом і лапатой — нічога не пераверне! А тут і страх находзе, Соймік за гэту муку ў Варшаве купцу задоўжыўся ня многа, так са два міліярды, дык той прыслаў паперу: чы муку вярнуць, чы грошы аддай, — а то ў Міністэрства пажалюся. А грошы узяць неадкуль; от, пан Гасліноўскі і дадумаўся: аддадзімо, кажа, гэну муку ў прытулак на ежу, а грошы з фонду грамадзкае апекі сьпішам і купцу адашлем. Так і зрабілі. І давай да нас муку вазіць і ў пакоі сыпаць! Насыпалі пад суфіт, а мы яе камамі і сякерамі секлі ў дзяжу, а каб да падлогі не прырасла і з шэрай зялёная не зрабілася, што пару дзён перакідаем з мейсца на мейсца. Булкі ядзімо ня ўсе, а болей маладыя, што гаварыць ня могуць, дык пані кіраўнічыха за іх адказывае, што смачныя!—Розна бывае.

Ну, а да службы дык у нас адносяцца, як да мамкі роднай: як хто захварэе і просе палячыцца, дык яго зараз-жа апякун наш у вечны вотпуск на сьвежае паветра адпускае, як напрыклад: з нянькай Рамаўскай зрабілі. Дык, як бы хворы чалавек ня быў, хвароба зараз уцякае.

От дрэнна ў гэты год дзеткам зімою будзе: забавы ніякой. Як у прошлым годзе, дык бывала дзеткі, як на сваю патрэбу на ганачак прытулку выйдуць, дык, знацца, паабліваюць усе сходы, не схадзіць, а зьяжджаць можна. Ну і ў дзень, хто саначкі зрабіў, дык на саначках, а хто і так на задку, сцярожна ў ніза як з ледзяной горкі зьяжджалі, а і ў пакоі пах ішоў, а цяпер прыдзецца забаву прыпыніць, бо за вярсту ад хаты на тую патрэбу з дашчок будку зьбілі.

Як відзіце, жывем і другім жыць наказываем, бо нашы ўладары: Соймік і пан Стараста — ня сьпяць, а аб нас клапоцяцца і апякуюцца намі, як роднымі дзяцьмі.

**Сябра.**

# Беларусы у Латвіі.

## Пад сьвятло!

Мы атрымалі з Латвіі даволі пікантную вестку, якая вымагае выясьненьня з боку асобы, якое датычыцца:

28 верасьня ў м. Люцыне адбыўся агульны сход люцынскага вучыцельскага прафэсіянальнага саюзу. Старшыня сходу з трыбуны казаў, што кіраўнік беларускага аддзелу ў міністэрстве асьветы, С. Сахараў, **браў хабары мукой** ад нейкага Собалева, і за гэта жонцы Собалева было выдана ўрадавае пасьведчаньне на права выкладаньня ў беларускіх школах.

Да гэтагу часу заява гэная грам. Сахаравым **не апратэставана.**

Грам. Сахаров, калі гэта — няпраўда (а нам ня хочацца верыць, што ён запраўды — хабарнік!), павінен прыцягнуць старшыню саюзу пад суд. Інакш ён дасьць повад верыць у праўдзівасьць заявы.

Падобныя справы — лішне балючыя для беларусаў, каб іх пакінуць нявыясьненымі да канца!

# Юрыдычныя парады.

## Гр. Паўлу Ганько.

1) **Запытаньне:** 7/III 1923 г. мяне пабілі мяйсцовыя абшарнікі, што зрабіць, каб пацягнуць іх да адказнасьці?

**Адказ:** Зайшла даўнасьць. Трэба было да году падаць у суд.

2) **Запытаньне:** У 1914 г. я прадаў 1 дзесяц., сенажацьці за 300 руб., атрымаў задатку 100 руб. Пакупец адказваецца ад рэшты платы і карыстае сенажацяй. Міравы судзьдзя прызнаў сенажаць за ім. Што зрабіць, каб пакупец аддаў рэшту, або ўзяў назад свой задатак?

**Адказ:** Трэба зьвярнуцца ў суд: вакружны, ці міравы, залежыць ад таго, колькі грошы будзеце пашуківаць. Маеце права на 532 зл., калі ўсю суму, дык у вакружны, а калі на 500 зл., дык уміравы.

Трэба далучыць запрадажную і копію рашэньня міравога суда.

Зямлі назад адабраць ня можна.

3) **Запытаньне:** У 1914 г. я палажыў у гмінную зьберагацельную касу 100 руб., цяпер касы няма, але засталася маемасьць, каторай карыстаюць прыватныя асобы. Як вярнуць хоць часьць грошы?

**Адказ:** Нічога не парадзіце.

4) **Запытаньне:** Наш судзьдзя бярэ хабары: тайна і яўна і бярэ толькі золатам і далярамі.

**Адказ:** Калі маеце факты, дык можна падаць жалабу пракурору акружнага суда.

5) **Запытаньне:** Наш камандант пастарунку б'ецца. Куды зьвярнуцца, каб яго пакаралі?

**Адказ:** Можна жаліцца да вакружнай каманды ў Берасьцю, але ці паможа?

## Сялянам в. в. Кракоткі і Вяцэвічы.

**Запытаньне:** Мы збудавалі пры Селяўскай царкве (цяпер касьцёл) усе будынкі, каторыя цяпер стаяць парожнымі. Ці можна перавязьці плябанію ў нашу вёску на школу.

**Адказ:** Будынкі будуць належаць да таго, на чыёй зямлі пабудаваны. Калі зямля належала да царквы, дык цяпер нічога ня зробіце.

# Паштовая скрынка.

**Жыхару в. Пашкаўцы.** Тое, аб чым вы пішаце, было ўжо даўно друкавана ў № 40 газэты „Сын Беларуса“ з 14 верасьня.

**Варэніку.** Да нас Вашае пісьмо не дайшло,— пэўне з прычыны зрабіўшаеся перамены.



Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.